Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны

# ГАСЦІНЕЦ

Ня бойся!

№12 (165), ЖНІВЕНЬ 2013 ГОДА

*Цытата нумара:*

**Ні ў кога не хопіць памяці, каб заўжды хлусіць з поспехам.**

*Абрам Лінкальн*

ДИАГНОЗ

## ДЕШЕВЫЙ КАМУФЛЯЖ

**Как известно, политическое руководство Беларуси объявило 2013 год переломным. Торжественно принятая программа модернизации промышленности должна была вывести страну на новые, невиданные высоты, полностью избавиться от, как изящно выразился президент, экономических «неурядиц». Годовой план роста ВВП (8,5%) — это уровень развития экономических тигров.**

Однако как-то сразу все не сложилось, не заладилось, пошло наперекосяк. И к середине года появляется все больше фактов, свидетельствующих об удручающем экономическом состоянии страны.

Прежде всего, становится очевидным, что белорусская экономика вступила в полосу рецессии, прекратился валовой рост, не говоря уже о развитии. ВВП за полгода вырос всего на 1,4%. Министерство финансов объявило, что из-за падения доходов придется сократить расходы бюджета на $1 млрд.

Все это сопровождается сокращением экспорта почти на четверть, ростом отрицательного сальдо внешнеторгового баланса, нарастающим дефицитом валюты. А ведь надо не только закрывать брешь в текущем счете, возвращать долги, но и удовлетворять растущий валютный спрос населения, подогретый девальвационными ожиданиями. А тут еще обвал мирового калийного рынка из-за выхода «Уралкалия» из Белорусской калийной компании, что неизбежно приведет к сокращению доходов «Беларуськалия». Плюс африканская чума, грозящая уничтожением всего свиного поголовья.

В былые времена, если бы рост ВВП свалился с плановых 8,5% до 1,4%, А. Лукашенко устроил бы показательный разнос правительству, может быть, даже отправил его в отставку. Но теперь к этой теме он старается не обращаться. Не до жиру...

В этих условиях у властей есть четыре способа пусть временного, но решения проблемы дефицита валюты: девальвация, расходование золотовалютных резервов, продажа крупных активов госсобственности или получение новых кредитов.

Собственно, власти сейчас и пытаются комбинировать эти варианты. Девальвация рубля происходит темпами 0,3% в неделю. Быстрее нельзя, ибо можно вызвать панику среди населения.

На 1 августа золотовалютные резервы Беларуси в определении МВФ сократились до $7 916,3 млн, преодолев психологически важный рубеж в $8 млрд.

В последнее время белорусские официальные лица подчеркивают, что государство добросовестно выполняет все свои внешние обязательства по выплате долгов. Но вот заместитель министра финансов Беларуси М. Ермолович сообщил, что в первой половине года «мы шли практически по пути рефинансирования своих обязательств». Иначе говоря, возвращать долги нечем, и чтобы не объявлять дефолт, приходится делать новые заимствования, т. е. создавать кредитно-долговую пирамиду.

Проблема в том, что пока не просматриваются источники новых кредитов. С МВФ отношения в тупике. Антикризисный фонд ЕврАзЭС переведет к концу года последний транш в размере $440 млн, а вопрос о новом кредите пока не обсуждается в практическом плане. Информация о китайском несвязанном кредите какая-то очень смутная и неопределенная. Заимствования с помощью размещения еврооблигаций оказываются слишком дорогими.

В последние месяцы правительство пытается осуществлять валютные заимствования на внутреннем рынке. Однако и здесь случилась неувязка. Последний выпуск внутренних валютных облигаций Минфина на 100 млн долларов не удалось распродать даже с двух попыток. Желающих их покупать оказалось немного.

Таким образом, все предпринимаемые властями действия — это паллиатив, полумеры, не предусматривающие какого-то более-менее долговременного решения проблемы.

И на этом фоне стали проявляться две диаметрально противоположные тенденции в социально-экономической политике властей. С одной стороны, реальная зарплата в первом полугодии 2013 года по сравнению с аналогичным периодом 2012-го выросла на 20,5 % (при прогнозе 7,1%) и приближается в среднем к $600.

С другой стороны, власти взяли курс на резкое уменьшение госрасходов и экономию средств. Произошло сокращение госаппарата на 25%. А. Лукашенко пригрозил перевести науку и театры на самоокупаемость.

Урезали госрасходы на спорт. Один футбольный клуб за другим объявляет о финансовом кризисе, нечем платить зарплату футболистам. Даже святая святых, наша «священная корова» — хоккейный бюджет подвергся обрезанию.

Власти пытаются сэкономить на выборах. Теперь из госбюджета не будут финансировать агитационную кампанию кандидатов в депутаты и президенты.

Белорусские банки прекратили выдачу льготных кредитов на жилье.

Одновременно правительство пытается изобрести все новые источники доходов, чтобы как-то пополнить бюджет. Ввели платные дороги, чем создали огромные очереди на границах.

Министерство финансов планирует в следующем году существенно увеличить акцизы на автомобильное топливо (в 2,4—3 раза), алкоголь, табачные изделия, повысить налог за аренду квартир и гаражей.

… У нас же все это происходит на фоне бравурных убаюкивающих рассуждений о стабильности, преимуществах белорусской модели и социально ориентированном государстве. Т. е. это попытка заретушировать снижение уровня жизни, попытаться осуществить его как бы тайком, контрабандным способом, спрятать от населения тот факт, что, как говорил герой одного известного советского фильма, «у Батьки кончился золотой запас». С одной стороны, повышают среднюю зарплату, а с другой стороны, доходы граждан отнимают с помощью роста цен и налогов. Такой креативный ход, творческое озарение власть предержащих. Ставка делается на тонкую социальную мимикрию, камуфляж. В расчете на политическую галлюцинацию людей, дескать, народ может и не заметить подвоха. Но это вряд ли. Ибо в свой карман люди смотрят гораздо чаще, чем на экран БТ.

**Валерий КАРБАЛЕВИЧ**
**http://www.sn-plus.com/ru/page/diagnosis/3075**

ЭКАЛАГІЧНАЯ ПРАБЛЕМА

## БАРШЧЭЎНІК АДЧУВАЕ СЯБЕ ВАЛЬГОТНА І ЛЯ ОБАЛІ

**Сезон 2013 года фактычна страчаны ўладамі Гарадоччыны для барацьбы з баршчэўнікам. У другім ачаге моцнага распаўсюду баршчэўніка ў раёне – каля в. Обаль – баршчэўнік ужо саспеў**

Спякотнае лета 2013 года спрые таму, што баршчэўнік Сасноўскага на Гарадоччыне выспеў ужо ў сярэдзіне жніўня. У гэтым магчыма пераканацца, калі наведваеце тэрыторыю каля в. Обаль.

Калі ў в. Паловічы баршчэўнік трапіў праз сортавыпрабавальную станцыю, то ў саўгасе "Обаль" у 70-я гады мінулага стагоддзя яго пачалі вырошчваць на сілас для жывёлы. Вынікі гэтага эксперымента несуцяшальныя. Баршчэўнік запаўняе ўсё мацней і мацней вуліцы в. Обаль, а таксама буяе ў яе ваколіцах.

Жыхары вёскі шчэ змагаюцца з баршчэўнікам на сваіх падворках, але каля пакінутых хат баршчэўнік буяе ва ўсю моц. Ліквідацыя саўгаса "Обаль" на мяжы стагоддзяў толькі паспрыяла далейшаму наступу баршчэўніка на вёску. Пры гэтым баршчэўнік распаўсюдзіўся і ўздоўж дарогі на в. Канавалава і в. Осмата.

Любіць баршчэўнік і пакінутыя фермы, як напрыклад у в. Адрэенкі. Ферма тут ліквідавана даўно, а баршчэўнік працягвае захопліваць тэрыторыю і ў вёсцы.

У ліпені на нарадзе ў Віцебскім аблвыканкаме ставілася задача навесці парадак на зямлі да 1 снежня, у тым ліку і ў справе выканання прыродаахоўнага заканадаўства, якое патрабуе знішчэння біялагічнага монстра – баршчэўніка Сасноўскага.

Толькі на Гарадоччыне ўжо страчаны час для барацьбы з ім: на распаўсюджанне паляцяць дзесяткі тысяч семян з кожнай расліны баршчэўніка. І праблема змагання з пустазеллем аднесена на наступны год?

**Л. Гаравы**

СМІ ПРА ГАРАДОЧЧЫНУ

## РЭСПУБЛІКАНСКІЯ СМІ КАЖУЦЬ ПРА КАРУПЦЫЮ З ГАРАДОЦКАГА РАЙВЫКАНКАМА

**Тэлеканал АНТ нагадаў аб карупцыйнай справе ў адносінах да першага намесніка старшыні Гарадоцкага райвыканкама**

Нагадаем, што напрыканцы красавіка БЕЛТА паведаміла аб карупцыйнай справе ў адносінах да першага намесніка старшыні Гарадоцкага райвыканкама. Гэтую пасаду займае Уладзімер Кавалёў, які раней працаваў на Аршаншчыне. Супраць першага намесніка ўзбуджана справа па ч.3 арт.210 КК (крадзеж шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі, здзейснены ў буйным памеры). Па гэтаму артыкулу прыдугледжана пакаранне ў якасьці пазбаўлення волі на тэрмін ад трох да дзесяці гадоў з канфіскацыяй маёмасці і з пазбаўленнем права займаць пэўныя пасады або займацца пэўнай дзейнасцю.

Напрыканцы чэрвеня рэспубліканская "Звязда" (26.06) таксама нагадала пра гэту вядомую карупцыйную справу. Пры гэтым аўтар нататкі паведаміў, што першы намеснік старшыні Гарадоцкага райвыканкама з'яўляецца былым і прыцягваўся да крымінальнай адказнасці за незаконную прадпрымальніцкую дзейнасць і падробку дакументаў.

Але Уладзімер Кавалёў да гэтага часу вядзе "барацьбу" за ураджай. І гэта барацьба павінна даць рэкордны плён. Нездарма старшыня райвыканкама Васіль Муранкоў пад час Зажынак заявіў, што на Гарадоччыне мусяць атрымаць рэкордны ураджай у 60 тысяч тон збожжа.

Між тым, калі на мінулым тыдні кіраўнік краіны Аляксандр Лукашэнка заявіў аб неабходнасці актывізацыі антыкарупцыйнай барацьбы, то тэлеканал АНТ у нядзельных "Контурах" (ont.by/programs/programs/kontyry/topics/0096051) палічыў неабходным узгадаў і карупцыйную справу з Гарадоччыны, якая яшчэ не завершана.

Дарэчы, па нашаму заканадаўству справа можа і не быць завершанай, калі правапарушальнік кампенсуе нанесеную шкоду і папросіць кіраўніка краіны аб памілаванні. То гэта памілаванне можа быць і атрымана. Дастаткова нагадаць адну з першых памілаваных – Галіну Жураўкову, экс-кіраўніцу Упраўлення справ адміністрацыі А. Лукашэнкі.

**Л. Антонаў**

ПРАБЛЕМА ЧУМЫ

# АФРЫКАНСКАЯ ЧУМА ПРЫЙШЛА НА ГАРАДОЧЧЫНУ

**Адбылася ліквідацыя свіней у в. Беразнякі, Бегуны Вайханскага сельсавета ў сувязі з выяўленнем афрыканскай чумы ў паўшай вьетнамскай свінкі, якую ўтрымлівала адна гаспадыня ў Беразняках**

26 ліпеня з раніцы супрацоўнікі мясцовай улады, работнікі Гарадоцкай ветэрынарнай службы пры падтрымцы міліцыі пачалі ліквідацыю свіней, якіх утрымлівалі на сваіх падворках жыхары в. Березнякі і Бегуны. Ліквідацыя свіней была выклікана тым, што ветэрынарная экспертыза ў Віцебску выявіла, што прычынай падзежа вьетнамскай свінкі з Беразнякоў, якая памерла на падворку мясцовай жыхаркі, была афрыканская чума.

Мясцовыя жыхары не чакалі такога раптоўнага візіту і маўкліва назіралі смяротную вакцынацыю свіней. Толькі самыя хуткія жыхары паспелі забіць сваіх гадаванцаў, каб не панесці эканамічныя страты ад ліквідацыі. Супрацоўнікі ветстанцыі выдавалі на рукі даведку аб вазе ліквідаванай свінні, а прадстаўнікі ўлады казалі, што на працягу тыдня магчыма будзе атрымаць кампенсацыю. Пры гэтым кампенсацыя складае 19 тысяч рублёў за кг жывой вагі. І гэта пры тым, што на рынку пры набыцці свіней гаспадарамы плацілі па 50 тысяч за кг.

Пасля абеду ліквідацыя каля чатырох дзесяткаў свіней у Беразняках і Бегунах была завершана, а трупы былі зарыты ў катлаван. Адначасова з гэтай аперацыяй жыхарам Гарадоччыны, якія мелі свіней, на рукі сталі выдаваць паведамленне аб тым, што да панядзелка 29 ліпеня неабходна забіць свіней на падворку, бо пры непрыняцці гэтых мер свінні будуць ліквідаваны супрацоўнікамі ветслужбы.

У гэтай сітуацыі здзіўляе афіцыйная пазіцыя Гарадоцкага райвыканкама, які 30 ліпеня на сайце (gorodok.vitebsk-region.gov.by/ru/news/news_raion) паведаміў, што "Не дапусціць распаўсюджвання віруса афрыканскай чумы свіней на тэрыторыі нашага раёна дапаможа строгае захаванне санітарных нормаў і патрабаванняў, адказныя паводзіны грамадзян".

І гэты ў той час, калі афрыканская чума прыйшла ў Гарадоцкі раён! Таму самае лепшае для гаспадароў і не толькі ў пяцікіламетровай зоне ад Пальмінкі -- забіць свіней для сябе.

**Леанід Гаравы**

ЭКАНАМІЧНАЕ РАЗВІЦЦЁ

# ІНВЕСТЫЦЫЙНАЯ ПРАГРАМА ДЛЯ ГАРАДОЧЧЫНЫ ПРАБУКСОЎВАЕ

**У інвестыцыйнай праграме Віцебскай вобласці на 2013 год прадугледжана будаўніцтва, рэканструкцыя і праектаванне пяці аб'ектаў у Гарадоцкім раёне. Але будаўніцтва гэтых аб'ектаў шчэ не пачалося.**

Наогул інвестыцыйная праграма на 2013 год зацверджана Віцебскім абласным саветам дэпутатаў і утрымлівае будаўніцтва, рэканструкцыю і праектаванне 141 аб'екта на Віцебшчыне.

Па гэтай праграме ў 2013 годзе на будаўніцтва, рэканструкцыю і праектаванне аб'ектаў камунальнай уласнасці інвестыцыйнай праграмай прадугледжана накіраваць 681.792.344.000 рублёў з абласнога бюджэту. На жыллёва-камунальную гаспадарку і жыллёвае будаўніцтва выдзяляецца 376.866.803.000 рублёў, з іх 40 мільярдаў рублёў пойдзе на Дзяржаўную праграму па водазабеспячэнню і водаадвядзенню "Чыстая вада».

Для Гарадоцкага раёна па гэтай праграме на 2013 год запланавана рэалізацыя планаў па будаўніцтву дзесяцігоддзямі абяцаных аб'ектаў: «Фізкультурна-аздараўленчы комплекс" па вул. Гагарына, «Лыжа-ролерная траса ў Варабьёвых гарах".

Закладзена ў праграму таксама і «Рэканструкцыя аўтастанцыі ў г. Гарадок". Пры гэтым яе рэканструкцыя будзе ажыццяўляцца са сферы нацыянальнай эканомікі у памеры 1000 млн. рублёў.

Па інвестыцыйнай праграме таксама прадугледжана "Закальцоўка сетак водазабеспячэння ў мікрараёне вул. Гагарына з падключэннем да станцыі абезжалезвання", а таксама «Рэканструкцыя ачышчальных збудаванняў у н.п. Бычыха ».

Пры гэтым для усіх вышэй названых аб'ектаў, за выключэннем ачышчальных збудаванняў у Бычысе, патрабуюцца праектна-пошукавыя працы.

І гэтыя працы мусіць разцягнуліся не толькі на ўсё першае паўгоддзе, а ідуць і зараз. Таму па выніках гэтага году будзе даволі складана пабачыць вынікі, як рэканструкцыі аўтастанцыі ў райцэнтры, так і пабудаваную лыжа-ролерную трасу ў Варабьёвых гарах, не кажучы пра «Фізкультурна-аздараўленчы комплекс" па вул. Гагарына.

Бо зараз складана знайсці вольныя грошы, бо Віцебшчына кепска выглядае ў фінансавым становішчы, што канстатаваў ў мінулым месяцы старшыня Савета Міністраў Міхаіл Мясніковіч: даўгі вобласці па крэдытах вельмі вялікія, ды і за малако авансы сельскагаспадарчымі аб'ектамі набраны на год наперад. Наогул, Віцебскі аблвыканкам мае доўгу перад банкамі за раней выдадзеныя гарантыі больш чым на 100 мільярдаў рублёў. І амаль палова арганізацый Віцебшчыны знаходзіцца ў няўстойлівым фінансавым становішчы.

Праўда, знайшліся грошы для будаўніцтва новага даху для Гарадоцкага райвыканкама. Але гэта ўжо зусім іншая гісторыя.

**Л. Антонаў**

УРАДЖАЙ 2013

# ЗБОЖЖА СЛОВАМ НЕ ПАДПАРАДКОЎВАЕЦЦА

**Пастаўленая старшынёй Гарадоцкага райвыканкама Васілем Муранковым задача сабраць у гэтым годзе каля 60 тысяч тон зерня адносіцца да катэгоры нерашаемых.**

Пад час Зажынак па палях ААТ "Гарадоцкі льназавод" Васіль Муранкоў, калі ужо былі бачны віды на канчатковы ўраджай, заявіў аб неабходнасці сабраць у гэтым годзе з гарадоцкіх палёў 60 тысяч тон зерня. Між тым і ў лепшыя часы з нашых палёў рэдка збіралі больш 45 тысяч тон зерня. Але 60 тысяч тон гэта добрая падтрымка для Уладзімера Кавалёва, кіраўніка Гарадоцкага райсельгаспрода, супраць якога заведзена крымінальная справа па карупцыі. Таксама 60 тысяч добры аргумент за Дажынкі ў Гарадку, калі і не рэспубліканскіх, то хаця бы абласных ці рэгіянальных…

Але лёгка слова кажыцца, ды не лёгка справа робіцца. Па стану на 9 жніўня гаспадаркі раёна ўбралі амаль палову новага ўраджаю – 8865 га або 47,5% ад плана. Пры ўраджайнасці 24,0 ц/га гэта крыху болей 21 тысячы тон бункернай вагі. З улікам таго, што ўраджайнасць з палёў змяншаецца пры павелічэнні сабранага збожжа складана разлічваць і на 45 тысяч тон, не кажучы пра 60 тысяч.

Тым больш, што гэта бункерная вага, а не чыстага зерня, якога звычайна на Гарадоччыне атрымліваецца на 15-18% менш. Так напрыклад, у мінулым годзе рапартавалі аб зборы 43 тысяч тон збожжа, а пасля апрацоўкі яго атрымалася толькі 35388 тон пры ўраджайнасці ў 19,9 ц/га.

Між тым, пры ўсіх "васюкінскіх" планах мясцовага кіраўніцтва камбайнёры і кіроўцы аўтамашын рупліва шчыруюць на збожжавых палетках. Наперадзе сярод камбайнёраў малады Аляксандр Саратаў з СУП "Паўночны", які намалаціў 673 тоны, а за ім Мікалай Цярэнцьеў з ААТ "Гарадоцкі льназавод" з 569 тонамі зерня па стану на 9 жніўня.

**Л. Антонаў**

КРЫМІНАЛ

# МАЛАДЗЁН ДВОЙЧЫ БІЎ ГАРАДОЦКІХ МІЛІЦЫЯНТАЎ

**Аматар "зялёнага змія" двойчы біў гарадоцкіх міліцыянераў пры затрыманні і атрымаў паўтары гады папраўчай калоніі.**

Паводле інфармацыі старшага памочніка пракурора Гарадоцкага раёна Арцёма Заікіна ( gorodok.vitebsk-region.gov.by/ru/vlast/prokuratura/news_prokur ) 22-х гадовы жыхар Гарадка на працягу невялікага часу двойчы нападаў на супрацоўнікаў Гарадоцкага РАУС пры выкананні імі службовых абавязкаў.

Усё пачалося з таго, што непрацуючы жыхар г. Гарадка вечарам бавіў час з алкагольнымі напоямі. Пасля злоўжывання алкаголя яго пацягнула на подзвігі. На вул. Баграмяна ў г. Гарадку ён задумаў канфлікт з незнаёмай кампаніяй, якая і выклікала міліцыю. Так як у дзеяннях хулігана ўгледжваўся склад адміністрацыйнага правапарушэння, то прыехаўшыя супрацоўнікі міліцыі прапанавалі маладзёну праехаць для разгляду ў аддзел унутраных спраў. Аматар Бахуса адмовіўся, у сувязі з чым, на яго былі надзетыя кайданкі, і ён прымусова быў дастаўлены ў міліцыю. Пасля гэтага, маладзёну было прапанавана праехаць у райбальніцу з мэтай прайсці медыцынскі агляд.

Аднак выйшаўшы з будынку міліцыі, хуліган стаў упірацца і не як не хацеў садзіцца ў службовы аўтамабіль. Пры гэтым ён выказваў абразлівыя словы ў адрас трох супрацоўнікаў міліцыі, якія суправаджалі яго. У машыне незадаволенасць затрыманага ўзмацнілася. Малады чалавек стаў вырывацца, гучна крычаць, пры гэтым перашкаджаў кіроўцу весці аўтамабіль.

У адзін момант, знаходзячыся на заднім сядзенні аўтамабіля, ён прасунуў сваю нагу наперад і стаў ёй наносіць удары кіроўцу. Таксама дасталася і таму супрацоўніку міліцыі, хто быў спераду. Вартавы правапарадку паспрабаваў схапіць нагу і спыніць супрацьпраўныя дзеянні. У гэты ж момант хуліган нанёс такі ўдар па руцэ, што прычыніў сваімі дзеяннямі міліцыянеру траўму правай рукі з закрытым пераломам.

Дзеянні маладога чалавека следствам былі кваліфікаваныя па ч. 2 арт. 363 КК Рэспублікі Беларусь як супраціў супрацоўніку органаў унутраных спраў пры выкананні ім абавязкаў па ахове грамадскага парадку, спалучаны з ужываннем гвалту.

Але нават знаходзячыся ў зале суда, наш "герой" працягнуў «ўпарціцца». Маўляў, нагу выставіў наперад, так як схапіла сутарга. Удар нанёс выпадкова, а вінаваты сам міліцыянт. Праўда яго довады не знайшлі свайго пацверджання ў ходзе судовага разбіральніцтва па гэтай справе.

Судўлічыў характарыстыку асобы маладога чалавека, які раней не здзяйсняў злачынстваў, працаўладкаваўся, але было ўлічана і тое, што ён адмоўна характарызуецца па месцы жыхарства і схільны да ўжывання спіртных напояў. Па рашэнню суда яму было прызначана пакаранне ў выглядзе двух гадоў абмежавання волі з накіраваннем у выпраўленчую ўстанову адкрытага тыпу.

Але пасля здзейсненага злачынства, яшчэ пад час папярэдняга расследавання "герой" зноў здзейсніў падобнае злачынства.

На гэты раз ён, знаходзячыся ў кафэ, у стане алкагольнага ап'янення не рэагаваў на заўвагі супрацоўнікаў міліцыі з нагоды яго паводзін. Малады чалавек зноў ударыў міліцыянта па назе і стаў змагацца з ім.

Дзеянні хулігана былі кваліфікаваныя па арт. 364 КК Рэспублікі Беларусь па прыкмеце - гвалт у дачыненьні да супрацоўнікаў органаў унутраных спраў з мэтай перашкодзіць іх законнай дзейнасці. Па новым прысуду маладому чалавеку давядзецца адбываць пакаранне ўжо ў папраўчай калоніі тэрмінам паўтара года.

**Л. Антонаў**

КАЛІЙНАЕ ПЫТАННЕ

# «БЕЛАРУСЬКАЛІЮ» АБ'ЯЎЛЕНА «ВАЙНА НА ЗНІШЧЭННЕ»?

**Маскоўскую біржу працягвае штарміць пасля абвяшчэння савета дырэктараў «Уралкалія» аб разрыве картэльнай дамоўленасці з беларускім партнёрам.**

Пасля падзення амаль на 20% у аўторак, у першыя хвіліны гандлю 31 ліпеня акцыі расійскага калійнага манапаліста патаннелі яшчэ на 4%.

Шок інвестараў зразумелы. Калі ў пачатку года «Уралкалій» збіраўся скараціць вытворчасць амаль у два разы, каб утрымаць зніжэнне сусветных коштаў, то зараз стратэгія кампаніі дыяметральна - на максімальнае нарошчванне аб'ёмаў і цэнавую вайну з канкурэнтамі. І гэта пры тым, што вынікам такой палітыкі, як чакаецца, будзе радыкальнае памяншэнне прыбытку самой расійскай кампаніі.

«У выпадку 25-працэнтнага зніжэння коштаў у другой палове 2013 года чысты гадавы прыбытак« Уралкалія », па нашых разліках, можа скласці парадку 870 млн. даляраў, што азначае падзенне больш чым на 45% у параўнанні з папярэднім годам», - прагназуе Васіль Танургаў , аналітык расійскай інвестыцыйнай кампаніі «Вялес Капітал».

Расійскія эксперты падкрэсліваюць, што з пункту гледжання бізнесу дзеяньням "Уралкалія" ніякага лагічнага тлумачэння няма.

«Супрацоўніцтва ў рамках БКК дазваляла падтрымліваць зручныя цэны, таму іншых прычын, акрамя адносін з беларускім бокам, у дзеяннях кампаніі я не бачу», - сказаў у каментары для Naviny.by старэйшы аналітык расійскага агенцтва «Інвесткафе» Андрэй Шэнк.

Забяры ў мяне адно вока, але у суседа - два

Але наступствы гэтай «калійнай вайны» могуць быць значнымі і для Беларусі.

Бо планы «дабраць па аб'ёмах тое, што страцілі ў цане», якія раней агучваў прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Мясніковіч, маглі спрацаваць для «Беларуськалія» толькі ва ўмовах супрацоўніцтва з расійскім партнёрам. Ва ўмовах жа цэнавай вайны «рост аб'ёмаў продажаў на наступны год не зможа кампенсаваць падзенне коштаў», адзначае Васіль Тануркоў, называючы дзеянні расійскага манапаліста «вайной на знішчэнне». Пры гэтым, на яго думку, «захаванне спотавых цэн на ўзроўні каля 300 даляраў за тону прывядзе ў 2014 годзе да далейшага зніжэння чыстай прыбытку (« Уралкалія ». - Naviny.by) - аж да 450 мільёнаў даляраў».

Андрэй Шэнк таксама лічыць, што, хоць патанненне цэн і прывядзе да росту попыту, але гэта пакрые павелічэнне вытворчасці толькі часткова. Таму за збыт нарошчаных аб'ёмаў калійнай прадукцыі расійская і беларуская кампаніі сутыкнуцца ў жорсткай канкурэнцыі.

Усю сур'ёзнасць сітуацыі падкрэслівае і зваротная заява ААТ "Беларуськалій", што кампанія спешна рыхтуе новую стратэгію продажаў у сувязі з новымі ўмовамі на сусветным калійным рынку.

Спланаваны напад

Расійскае выданне «Камерсант» адзначае ў рашэннях савета дырэктараў «Уралкалія» яшчэ адну дзіўнасць. Бо ўсяго за некалькі дзён да скандальнага аўторка прадстаўнікі гэтай кампаніі пацвярджалі сваю прыхільнасць супрацоўніцтву з беларускімі партнёрам. Наіўны назіральнік мог бы выказаць здагадку, што рашэнне стала хутчэй эмацыйным - пад уплывам паведамленняў аб магчымасці выкарыстання Менскам «шэрых схем» па продажы дадатковых аб'ёмаў угнаенняў, накшталт той, пра якую Naviny.by пісалі на мінулым тыдні.

Але шэраг найбуйнейшых акцыянераў «Уралкалія» паскорана прадалі свае пакеты яшчэ ў пачатку ліпеня, што наводзіць на думку аб іх інфармаванасці пра ўзрушэнні ў блізкай будучыні.

«Калі ўлічыць, што некаторыя буйныя мінарытары выходзілі з папер «Уралкалія » незадоўга да абвяшчэння значнай падзеі для кампаніі і ўсёй галіны ў цэлым, можна сказаць, што інсайдэрская гульня ў дадзеныя паперы, хутчэй за ўсё, была», - адзначае старэйшы партфельны кіраўнік КК « Капіталъ » Вадзім Біт-Аўрагім.

А гэта значыць, што ў час апошняга візіту Сулеймана Керымава ў Мінск і працы камісіі па вырашэнні спрэчных пытанняў расійскі бок, мабыць, ужо рыхтавала цяперашні дэмарш. Прычым некаторыя расійскія аналітыкі мяркуюць, што пытанне стаіць не толькі і не столькі ў урэгуляванні спрэчкі вакол сумеснага трэйдара, колькі аб паглынанні «Беларуськалія».

Такім чынам, цяперашні скандал, падобна, з'яўляецца працягам рэйдэрскай атакі на «Беларуськалій», якая пачалася ў мінулым годзе з ліквідацыі беларускага «растворительного» бізнесу. А гэта значыць, што эканамічны ціск з боку Масквы (па меншай меры - ўрада РФ) будзе нарастаць аж да вырашэння пытання аб прыватызацыі «Беларуськалія», ад якога, па нядаўніх словах прэм'ер-міністра РФ Дзмітрыя Мядзведзева, Мінску «не адкруціцца».

**Стась Івашкевіч**

ДЭМАКРАТЫЧНЫ РУХ

# "НАРОДНЫ РЭФЕРЭНДУМ" ДАБРАЎСЯ ДА СЕЛЬСКАЙ МЯСЦОВАСЦІ

**6 жніўня ініцыятары "Народнага рэферэндуму" мелі сустрэчы з людзьмі ў Слоніме і вёсцы Дзераўная Слонімскага раёна. Прычым у Дзераўной гэта былі першыя шчыльныя камунікацыі з насельніцтвам сельскай мясцовасці ў межах рэферэндумнай кампаніі.**

Першы намеснік старшыні Руху "За Свабоду" Юрась Губарэвіч зазначае, што ідэя была ўспрынята пазітыўна, і робіць выснову аб неабходнасці больш частага наведвання апазіцыянерамі вёсак.

Дзераўную насяляюць каля паўтысячы чалавек, вёска мае статус аграгарадка, але сітуацыя з сацыякультурнай інфрастуктурай вартая жалю, кажа Губарэвіч. Напрыклад, у вёсцы ёсць вялізны Палац культуры, збудаваны ў 1985 годзе тутэйшым калгасам-мільянерам. Але з 1990-х ён пачаў прыходзіць у занпад.

"Па прызначэнні Палац культуры ўжо не выкарыстоўваецца, хаця тут маюцца вялікая глядзельная зала, спартовая зала, калісьці мясцовыя жыхары гулялі ў більярд, баскетбол. Цяпер яны скардзяцца, што не маюць магчымасці такога адпачынку. Вокны выбітыя, батарэі вынесеныя, паркетраструшчаны. Будынак расцягваецца", - кажа Юрась Губарэвіч.

Мясцовы прадпрымальнік прапаноўвае арганізаваць тут дрэваапрацоўку, забяспечыць жыхароў Дзераўной некалькімі дзясяткамі працоўных месцаў, а ўжо зараз выставіць ахоўнікаў, каб будынак не занепадаў далей. Але пакуль бізнэсовец не можа знайсці агульную мову наконт такога праекта з уладамі.

"На сустрэчу з намі прыйшлі каля 15 чалавек. Не было ніводнага, хто падтрымліваў бы існуючы рэжым. Падзенне ўзроўню жыцця тут наўпрост звязваюць з палітыкай уладаў. Кажуць, што наспеў час нешта мяняць. Але адзначу, што да такіх высноваў вясковы народ даспеў самастойна. Мы даведаліся, што ніхто тут ніякіх інфармацыйных матэрыялаў ад апазіцыі не бачыў. Вяскоўцы выказалі пажаданне, каб альтэрнатыўныя ўладам палітыкі прыязджалі да іх часцей", - адзначае Губарэвіч, які быў у Дзераўной разам з Андрэем Дзмітрыевым з "Гавары праўду" і Аляксеем Янукевічам, старшынём Партыі БНФ.

Юрась Губарэвіч робіць выснову: "Сітуацыя мяняецца. Жыхарoў сельскай мясцовасці ўжо нельга назваць безмоўным электаральным апірышчам дзейнай улады. Адпаведна апазіцыі варта хадзіць у народ не толькі па гарадах".

МЕРКАВАННЕ

# СВИНСТВО

**А помните, как люди просили: "Не стройте свинокомплексы прямо возле наших домов...Отводите под них территории где-нибудь подальше от жилья, от деревень..." Кто тогда прислушался к этим просьбам?**

Возьмем хотя бы последний пример такой проигранной войны в Воложинском районе, когда люди пытались не допустить строительство СООО «Данпрод» комплекса на 110 тысяч голов свиней (к которому, говорят, имеет прямое отношение бизнесмен Юрий Чиж). И при этом жилые дома попали даже в километровую санитарную зону, предусмотреную для таких объектов Минздравом.

Однако возмущение и протесты власти просто проигнорировали. Тогда говорили, что все по нормам, все по правилам, все предусмотрено. А вот сейчас выясняется, что в радиусе 5 километров от свинокомплексов нельзя держать свиней. И желательно, чтобы там никто не жил, потому что люди тоже являются разносчиками инфекций. А еще очень хорошо, чтобы близко не было крупных трасс, потому что самую разную заразу можно привезти на колесах машин...

Вот только в Воложинском районе, где просто силой вперли огромный свинокомплекс, все было ровно наоборот: и деревни с личными кабанчиками, и международная трасса рядом. Однако когда разрешали строительство, никто об элементарных правилах ветеринарной безопасности не хотел ни знать, ни думать.

Программа развития свинокомплекса принималась в 2011 году. И ни одним своим пунктом она не предусматривала вынос имевшихся "ароматных производств" подальше от деревень. Более того, тогда постановили увеличить мощности 107 имеющихся свинокомплексов и добавить к ним 110 новых, которые уж точно можно и нужно было строить с учетом того, что даже в наше дисциплинированное государство могут проникнуть самые разные инфекции.

Ладно, не в белорусской традиции думать о людях, но о свиньях, об их безопасности могли подумать! В конце концов, государственные умы планировали настоящий прорыв в экспортоориентированной отрасли, большие финансовые вложения. И должны, просто обязаны были предусмотреть, чтобы какая-нибудь баба Маня со своим поросенком не пустила под нож миллионы долларов, вкладываемых в амбициозный проект по зарабатыванию валюты.

То есть комплексы изначально должны были строить так, чтобы в радиусе пяти километров не было деревень. Но ведь нет! Не думали ни о бабе Мане, ни о свиньях. Только о суммах с большими нулями думали. Теперь имеем результат. Планы по экспорту белорусской свинины накрылись медным тазом, и не на один год. Сотни тысяч баб Мань, которых сегодня заставляют убивать свиней, рыдают над своими поросятами и проклинают это свинское государство. И при этом официально говорится, что виноватых нет. Что все случилось как-то само собой, без участия человеческого фактора с печатями и полномочиями.

Извините...

В стране есть Департамент ветеринарного и продовольственного надзора, который вообще-то должен знать и помнить, что свиньи болеют. А, значит, комплексы надо строить так, чтобы максимально их обезопасить.

Я допускаю, что директор департамента Василий Потапович Жуков понятия не имел ни про африканскую чуму свиней, ни про обыкновенную, ни про оптимальные размеры санитарных зон. Просто потому, что этот человек не ветеринар. Он специалист по тракторам, по механизации сельского хозяйства, а, значит, его научили, что основа экономического успеха -- наименьший пробег машины.

Правда, Жуков в свое время удачно попал на должность директора "Беловежской пущи" -- когда земляк, тогдашний управделами президента Иван Титенков, решил, что заповедники вполне могут быть зоной хозяйственной деятельности. И дальше карьера пошла в самых разных областях, но неизменно вверх. И в Министерстве энергетики Жуков поработал, и заместителем управляющего делами президента.

На нынешнюю должность он попал именно в департаменте он попал именно в 2011-м, когда только принималась программа строительства новых свинокомплексов и когда еще можно было сделать так, чтобы они размещались с учетом и интересов свиней, и интересов людей, и интересов государства. Однако не сделал. Оказался не компетентен? На тот момент мало проработал, не врубился? Ну, значит, за некомпетенцию главы ведомства должен отвечать тот, кто его назначал.

А вот Главный ветеринарный врач страны Юрий Алексеевич Пивоварчик вполне должен ответить сам за себя. С 2002 года возглавляет ветеринарную службу. За это время она не раз меняла названия и подчиненность, но не меняла руководителя. Именно г-н Пивоварчик готовил такие ветеринарные правила по выращиванию свиней, в которых вообще не прописано, на каком расстоянии от деревень комплексы должны находиться. Министр здравоохранения хоть километр отвел для защиты людей, а ветеринары для защиты свиней не отвели ничего. Указано, что комплексы должны строиться с подветренной стороны жилой застройки -- и только.

Зато сейчас главный ветврач вспомнил, что в радиусе пяти километров и люди, и "людские свиньи" представляют для таких производств непосредственную угрозу. И проявляет невиданную активность: нигде с таким остервенением не уничтожают свиней на частных подворьях, как в Беларуси. Может, Пивоварчику теперь медаль дать за то, что он столь бескомпромиссен? За то, что, наконец, увидел бомбу замедленного действия, заложенную под программу развития белорусского свинокомплекса в виде бабы Маниного поросенка.

Вот только бомбу эту он сам и заложил. Ведь нет никакой гарантии, что подобное не повторится. Так, в конце концов, сколько будет длится это свинство: когда каждый раз страдают ни в чем не повинные люди, но никогда нет наказанных за компанейшину, некомпетентность и головотяпство?

**Светлана Калинкина**

НАШЫ КОШТЫ

# РАСІЙСКІ БІЗНЭСМЭН ШАКАВАНЫ КОШТАМІ НА БЕЛАРУСКІЯ ТАВАРЫ

**Прадпрымальнік з Растова-на-Доне папракае дырэктараў беларускіх прадпрыемстваў у сквапнасці: «Беларускія сякеры і рыдлёўкі даражэй кітайскіх! Гэта шлях у нікуды »**

**Ліст бізнэсмэна апублікавала газета «Советская Беларусь» (www.sb.by)**

«Расійскія эканамісты папярэджвалі, што на тэрыторыю краін Мытнага саюза хлыне паток танных тавараў з Польшчы, Турцыі і Кітая, з якімі будзе вельмі складана канкураваць і расійскім, і беларускім вытворцам. І што трэба рыхтавацца, каб сумесна супрацьстаяць гэтай экспансіі.

Ад беларускіх экспертаў, эканамістаў, прадпрымальнікаў чуваць толькі адно: «Нашым таварам нішто не пагражае. Паколькі яны пры высокай якасці танней на 30% расійскіх, на 20% - украінскіх і на 10% - кітайскіх. Наадварот, са здыманнем межаў і адменай пошлін пачнецца самы сапраўдны гандлёвы бум ».

Я з ліку многіх расійскіх прадпрымальнікаў, якія прыязджалі на беларускія заводы і вялікімі аб'ёмамі - на сотні мільёнаў рублёў - закуплялі для продажу ў Расіі рыдлёўкі, сякеры, трасы, вяроўкі, нажоўкі, пячное ліццё, газавыя балоны і многія іншыя тавары народнага спажывання. Усіх усё задавальняла.

І, здавалася б, дырэктарам прадпрыемстваў і чыноўнікам, якія адказваюць за вытворчасць тавараў народнага спажывання (ТНС), сам бог загадаў трымаць разумныя цэны і абавязкова даваць шырокую рэкламу сваім таварах. Ды яшчэ і з указаннем сваіх лагатыпаў, таварных знакаў і нанясеннем кляйма, што гэта зроблена менавіта ў Беларусі. Гэта вельмі важна. Паколькі да якасці беларускіх ТНС, у тым ліку інструменту, мэблі і многім іншым прамтавараў, традыцыйна быў высокі давер, прэтэнзій не было.

Але дырэктара пайшлі іншым шляхам: кошты на ТНС толькі за І паўгоддзе 2012 года сталі вышэй амаль у 2 разы. Беларуская рыдлёўка без ручкі каштавала для расейцаў 72 рублі, сёння - 96.

Кухонная сякера каштавала 94 рубля, стала 182, універсальны сякера была 182 рубля, стала 380. А расійская такі каштуе 185 рублёў, украінская - 164, кітайская - 154.

І па мностве іншых пазіцый цэны на ТНС такіх прадпрыемстваў, як Аршанскі і Кобрынскі інструментальныя заводы, Навагрудскі завод газавай апаратуры, Гомельскі завод «СІТА» і іншыя, выраслі на 50-100% і вышэй. Рэалізацыя іх на расійскім рынку практычна спынена. Чаму, пытаюся ў дырэктараў і намесьнікаў, цэны так рэзка пайшлі ўверх?

Адказваюць, што рабочым няма чым плаціць зарплату. На маё пярэчанне, што так яшчэ менш будзе грошай, калі з-за дарагоўлі вашыя тавары наогул перастануць купляць, не адказваюць, маўчаць.

Сёння ўсе гэтыя вашы эксперты і эканамісты маўчаць, не кажуць, чаму нават трактары і грузавікі прадаюцца ў нас з вялікай цяжкасцю. Страціць расейскі рынак лёгка, а вось вярнуцца назад будзе вельмі складана. Там усё ўжо і так занята кітайскімі таварамі. Нават у вашых ГУМе і ЦУМе кітайскія і нават расійскія ТНС прыкметна пацяснілі беларускія. Прычына ў цэнах і ў сквапнасці дырэктарскага корпуса. А гэта шлях у нікуды.

НАШЫ ЗАРОБКІ

# У 108 З 118 РАЁНАЎ БЕЛАРУСІ ЗАРОБАК НІЖЭЙШЫ ЗА СЯРЭДНІ ПА КРАІНЕ

**Белстат апублікаваў дадзеныя аб сярэднім заробку ў раёнах Беларусі за май 2013. Агулам па краіне ён склаў 4 988 300 рублёў — $ 575.**

Наколькі «сярэдняя тэмпературы бальніцы» адпавядае сітуацыі ў краіне, дэманструе наступны факт.

Больш за сярэдні беларускі заробак налічылі толькі ў Наваполацку, Мінску, Гродне, Гомелі, Жлобінскім, Рэчыцкім, Мазырскім, Дзяржынскім, Мінскім, Салігорскім і Смалявіцкім раёнах. А вось ў 108 раёнах — менш за сярэдні заробак.

Згодна з падлікамі, самым багатым рэгіёнам краіны параней шамузастаецца Салігорскі раён. Тут зараблялі па 7 316 700 рублёў ($ 843,4 у эквіваленце).

Услед ідуць Наваполацк ($ 754), Мінск ($ 727) і Мазырскі раён ($ 636).

На адваротным баку спіса ўсё яшчэ Браслаўшчына ($ 391) і Лоеўшчына ($ 393). Астатнія раёны пераадолелі ў маі мяжу ў $ 400.

**Ягор Марціновіч**
**«Наша Ніва»**

ТАКАЯ АДУКАЦЫЯ

# БЕЛАРУСЫ МАСАВА БЯГУЦЬ АД АЙЧЫННАЙ АДУКАЦЫІ

**«Цяпер мы назіраем масавыя ўцёкі беларускіх маладых людзей за мяжу. Прычым тэмпы гэтага уцёкаў пагрозлівыя », - сцвярджае былы прарэктар Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта Уладзімір Дунаеў.**

Па дадзеных за 2010 год, больш за 30 тысяч беларусаў вучыцца за мяжой, і за апошнія 5 гадоў іх колькасць вырасла ў тры разы.

«Многія праблемы зыходзяць менавіта ад нізкай якасці адукацыі ... Хапае ўскосных сведчанняў таго, што якасць адукацыі ў нас нізкая. Больш за тое, яно з кожным годам пагаршаецца, з гэтым, хутчэй за ўсё, пагодзяцца многія. І сітуацыя патрабуе рашучых дзеянняў, каб павярнуць назад гэты працэс », - кажа Уладзімір Дунаеў.

Кожны з нас параўноўвае цяперашні стан вышэйшай адукацыі з часамі, калі мы скончалі ВНУ. У канцы 80-х - пачатку 90-ых ва ўсёй Беларусі было 80 тысяч студэнтаў, цяпер - каля 400 тысяч. Гэта не азначае, што разумных людзей стала ў пяць разоў больш - проста вышэйшая адукацыя даўно стала масавай:

«Мы працягваем лічыць вышэйшую адукацыю доляй эліты. А яна стала масава - не толькі ў Беларусі, але і ва ўсім свеце. Мы не можам выпасці з агульнага трэнду, і не трэба чакаць ад вышэйшай адукацыі таго, што яна магла раней даць крыху абраным. Гэта патрэбнасць сучаснага грамадства - масавая адукацыя, якая патрабуе новых формаў арганізацыі, новых канцэпцый, стратэгій. І агульнаеўрапейскі Балонскі працэс - як раз і ёсць адказ на гэтыя выклікі. Па мадэлях савецкай універсітэцкай адукацыі ўжо нельга вырашаць гэтыя праблемы », - адзначае эксперт.

Вышэйшая адукацыя ў Беларусі мае патрэбу ў рэформах, лічаць эксперты Еўрапейскага дыялогу па мадэрнізацыі для Беларусі, перш за ўсё трэба «змяніць сістэму кіравання вышэйшай адукацыяй". «Менавіта тут ключ да пазітыўных пераменаў. Пакуль сістэма застаецца аўтарытарнай, наўрад ці мы зможам дамагчыся сур'ёзных змяненняў у якасці адукацыі. Трэба падключаць да фарміравання адукацыйнай палітыкі розныя сацыяльныя групы нашага грамадства. Яна павінна ўлічваць інтарэсы тых, хто плаціць за адукацыю. У нас усё больш за вышэйшую адукацыю плацяць самі студэнты, а «музыку» па-ранейшаму заказвае дзяржава. Дзве трацiны студэнтаў вучацца на платных аддзяленнях, і яны павінны мець свой голас, магчымасць фармаваць адукацыйную палітыку », - падкрэсліў Уладзімір Дунаеў.

Беларусь - адзіная краіна на кантыненце, якая не ўваходзіць у гэта еўрапейскую прастору вышэйшай адукацыі.

«Беларускі выпадак сапраўды асаблівы. Мы - першая краіна, якой адмовілі ва уступленні ў Балонскі працэс. Нашы чыноўнікі лічылі, што нас прымуць такімі, якія мы ёсць - і не трэба будзе нічога мяняць. Ніхто асабліва і не заўважыў, як у 2009 годзе з Кодэкса аб адукацыі прыбралі артыкул «Універсітэцкая аўтаномія і акадэмічная свабода". І пры гэтым Міністэрства адукацыі спрабавала пераканаць еўрапейцаў, што «мы такія ж, як вы". І цяпер улада павінна вырашыць, што рабіць - махнуць рукой на Балонскі працэс і пакінуць усё, як ёсць, або падумаць, што зрабіць, каб стаць такімі, як усё ў Еўропе », - кажа эксперт.

Зараз абітурыенты могуць выбіраць-у Беларусі атрымліваць вышэйшую адукацыю, альбо за мяжой.

«Цяпер мы назіраем масавае ўцёкі беларускіх маладых людзей за мяжу. Прычым тэмпы гэтага уцёкаў пагражальныя. Ёсць такі паказчык, як каэфіцыент чыстай мабільнасці, які параўноўвае колькасць тых, хто заязджае ў краіну ў якасці замежнага студэнта, і тых, хто выязджае. Па апошніх дадзеных, гэта 2010 год, больш за 30 тысяч беларусаў вучыцца за мяжой. Прычым за 5 гадоў іх колькасць вырасла ў тры разы», - кажа Уладзімір Дунаеў.

**Крыніца: www.belaruspartisan.org**

БЕЛАРУСЬ - ЕЎРОПА

# БЕЛАРУСЬ - ДРУГАЯ СЯРОД САМЫХ КРЫМІНАЛЬНЫХ КРАІНАЎ ЕЎРОПЫ

**Эксперты правялі даследаванне, у якім падлічылі, колькі зняволеных прыпадае на кожныя 100 тысяч жыхароў пэўнай краіны Еўропы. Дадзеныя па Беларусі несуцяшальныя.**

Як ні спрабуюць ўлады прадставіць Беларусь «астраўком стабільнасці і правапарадку», статыстыка сведчыць пра адваротнае.

Як паведамляе Радыё Свабода са спасылкай на партал Hronika.info, сярод самых крымінальных краін Еўропы наша краіна займае другое месца. Пальма крымінальнага першынства - традыцыйна ў Расіі. Там налічылі каля 500 зняволеных на 100 тысяч грамадзян. Пры тым, што нормай лічыцца каля 70-80 чалавек на 100 тысяч насельніцтва краіны.

Адразу за Беларуссю ідуць Грузія і Азербайджан. Украіна займае дзесятае месца па колькасці зняволеных. У краіне на 100 тысяч грамадзян прыпадае 334 зняволеных.

Першае месца з канца заняла Ісландыя.

Паводле праведзеных падлікаў, у 20 з 47 краін, якія ўдзельнічаюць у даследаванні, адчуваюць недахоп месцаў у турмах. У гэтых краінах зняволеных больш, чым месцаў ва ўстановах пазбаўлення волі.

Характэрна, што барацьба са злачыннасцю - адна з любімых тым нарад і прэс-канферэнцый Аляксандра Лукашэнкі. Вось толькі словы пра спакойнай краіне, дзе «пануе парадак» і «не дапушчаны разгул крыміналу» моцна разыходзяцца з рэальным станам спраў.

Прыйшоўшы да ўлады ў «ліхія 90-я», кіраўнік дзяржавы так «здушыў» злачыннасць, што да 2006 году Беларусь заняла другое месца па забойствах сярод краін былога СССР, саступіўшы пальму першынства толькі Расіі (там на 100 тысяч чалавек налічвалася 27 забойстваў, у Беларусі - 9,68). Для параўнання, у «аранжавай» Украіне з яе «хаосам і разгулам крыміналу» (менавіта гэта ўбівалі ў галовы нам улады напярэдадні чарговых выбараў) гэты паказчык складаў 6,9. А ў суседняй Польшчы і таго менш - 1,2.

Не выглядала злачыннасць падушанай і да наступных выбараў. Калі яшчэ ў 1991 годзе колькасць усіх зарэгістраваных злачынстваў у Беларусі складала 81346, то ў 2009 годзе - 151 тыс. злачынстваў.

У 2012 годзе Беларусь зноў апынулася другі па ўзроўні злачыннасці пасля Расіі сярод краін СНД. Пакуль гэта адзіны «стабільны» паказчык.

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: 250318@list.ru Тэл. 8-02139-4-42-52, маб. + 375(29)6723842 (V), Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку 16.08.2013 у 20.15**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.